ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

# КРУЦІ, НЯ КРУЦІ — ТРЭБА ПАМЯРЦІ

СЦЭНІЧНЫ ГРОТЭСК
У ШАСЬЦЁХ АБРАЗКОХ З ПРАЛЁГАМ






МЕНСК, 1944
ВЫДАНЬНЕ ЧАСАПІСУ «НОВЫ ШЛЯХ»

# *ПРАЛЁГ*

АСОБЫ ПРАЛЁГУ:

Мужык

Сьмерць

*На сцэну ўваходзіць Мужык зь невялічкім клумачкам на плячох.*

Мужык

*(хворы, змарыўшыся)*

...Ну, нарэшце неяк дацягнууся да Панараў... Замарыўся аж з чупрыны ўжо йдзе па́ра... Яшчэ крыху, — ўжо драбніца... Вось відаць вежы, званіцы .. Вільня ўжо як на далоні... Паміж гор ляжыць як міска... Ужо блізка, ужо блізка... Прайду гэтыя йшчэ гоні... Дзякуй Богу, ужо блізка...

Барджэй да гарадзкіх дабрацца каб мyроў!.. Назад да хаты ўжо пайду мабыць здароў... Бог дасьць хваробе гэтай можа наўчоны дохтар штось паможа . .
Ну, воля Божая, хай будзе, што ма́е быць!.. цяпер-жа трэба супачыць...

*(сядае на камені)*

Ой, апошняя мая тут надзея!.. Калі гэты наўчоны дохтар мне не паможа, дык давядзецца хіба паміраць...
Ой, замучыла мяне гэтая разачка!
Што Вульляна ні рабіла: гаршчок на пупе станавіла, крапіву зварыўшы клала, у цяпліцы расьцірала — нічога не памагло, яшчэ горш прылягло...
Параілі мне людцы добрыя: галясу, купарвасу ды бурачнага квасу — ўсё гэта зельле скалаціць дый пакрысе піць. Усё гэта я зрабіў — і нічагусенькі!..
Хадзіў да знахаркі, каб загаварыла... Яна пашаптала, пашаптала, кары асінавай зьесьці дала, плюнула трэйчы у кут — вось і ўсё тут!.. Таксама й гэта ўсё не памагло...
Ня выбяруся з гэтых пут, хіба ужо капут!
Хіба што толькі гэты віленскі дахтарочак вылячыць мой жываточак...

*(хапаецца за бруха)*

Ой-ой-ой-ой!.. Зноў разачка схваціла, ледзь з ног не паваліла... Ой-ой! неўмагату!.. Ой-ой! больш не магу...

*(пасьля кароткай паўзы, уздыхнуўшы з палёгкай)*

О, ізноў крышку лягчэй!.. Зрабілася весялей... Ах, Божа, мукаў колькі праз гэтыя ўсё колькі, што не даюць дыхнуць...
Ооо! прайшло зусім... о, добра цяпер!.. Ах, паганая хвароба! Скуль яе ліха

нагнала?!.. не ад бульбы-ж? не ад сала?.. З чаго ўсё гэта — сам ня знаю: ці можа ад сырой вадзіцы? ці можа, як быў падарваўшыся, ~~ў мяне~~ - зварушылася маціца?..
Ну, цяпер не пашкодзіла-б мабыць крыху выпіць, закусіць...
Добра, што мне жонка дала на дарогу кусок сала, бо, сказаўшы праўду, я-ж сягоньня як ня еўшы. Бо ці-ж гэта была ежа? — міска бульбы, гаршчок кашы, бурачкоў малы саганчык, капусты крышку, гароху міска — вось і сьнеданьне ўсё наша!..

*(закусвае; раптам ізноў:)*

Ой-ой! ахці мне! зноў разачка ў жываце!.. О, Божанька мой, Божа! Нішто мне не паможа!.. Ой, ня ведаю сам, што са мной!?.. Раданькі ня дам ніякой...
Мусіць ужо сьмерць ідзе па мяне, не схаваешся ўжо нідзе ад яе... Яе ня зможа ніхто, яна дужэйша за ўсё, і кароль бясьсільны перад ёй, нават біскуп, на'т сам дохтар і той... Што-ж казаць аба мне, мужыку! Ці-ж змагацца зь ёю магу?

Сьмерць

*(зьяўляецца)*

Мужык

Ах, вось і яна! Вось мой канец!..

*(да Сьмерці:)*

Ясна вяльможная паня Кастуся! Зьмі-

луйся нада мной! Дай мне яшчэ крыху пажыць! Ці-ж ад нейкай паршывай у жываце колькі трэба ўжо паміраць?! Дый колькі нават ніякае няма! Я ўжо здароў, як рыба, ха-ха-ха! Вось бачыш: я сьмяюся, я скачу, гоп-гоп-гоп!...

*(на каленах)*

Дай яшчэ трохі пажыць!.. Жывот ужо не баліць... Прашу, вяльможная Кастуся! кленчу, і плачу, і малюся... Дай яшчэ трошачкі пажыць, — мне ўжо нічога не баліць...

Сьмерць

Бядуеш, плачаш ты дарма... — не па цябе зьявілася я... У Вільню я цяпер іду, там шмат жыцьця касой скашу... Не па цябе зьявілася я, — у Вільню я цяпер сьпяшу...

Мужык

О, мая даражэнькая! о, мая прыгожанькая! о, мая міленькая! о мая красачка!... Значыцца, я буду яшчэ жыць? — О, дзякуй табе, дзякуй, мая ты любачка!..

Сьмерць

Ня бойся, не палохайся!.. Твая чарга яшчэ ня прыйшла...
Яшчэ будзеш доўга жыць, яшчэ будзеш дужы, сільны, але памажы, браток, дацягнуцца мне да Вільні... Замарылася, накасілася, што ледзь на нагах стаю, — сама да Вільні не дайду.

Мужык

Я-ж, бачыш, пехатой іду... Канём працуе ў полі брат... Бо-ж цяпер, як набяду, працы на сяле ёсьць шмат.

Сьмерць

Дык занясі, браток, мяне у Вільню на сваёй сьпіне.

Мужык

Што васпані тут пляце! Як-жа-ж так?! Як-жа-ж так? Дык-жа будзе адзін сьмех: мужык Сьмерць на карак ўзяў і як баранá нясе!... Дык-жа будзе адзін сьмех, — можа нават гэта грэх?..

Сьмерць

Дык схавай мяне у мех, — там ніхто мяне ня ўбачыць... Мех на плечы ўскінеш свой і ўвойдзеш ў браму гарадзкую... Табе за гэта аддзякую — дарма нічога не хачу, табе за працу заплачу.

Мужык

Сьмешна васпані кажа штосьці, — якая можа быць заплата!.. Сама ты, бачу, не багата, няма на'т скуры, — адны косьці!

Сьмерць

Я не грашмі табе плачу, бо праўда, што я не багата, але табе цяпер хачу даць лепшую яшчэ заплату: магчымасьць я табе даю у прышласьць заглянуць сваю... Калі цябе хвароба з ног так зваліць, што

ўжо за парог свае ты хаты йсьці ня зможаш, усьцяж на ложку ляжучы, дык памятай адно тады: — калі пабачыш, што ў галовах я ложка твайго стаю, тады памерці будзь гатовы, тады заказывай труну, — ратунку для цябе няма...

Калі-ж пабачыш, што стаю я у ложка твайго нагах, тады адкінь усякі страх і не бядуйся, — будзеш жыць, няма патрэбы сьлёзы ліць.

Мужык

Ну, дзякуй, дзякуй дабрадзейцы, што гэта веданьне дала ты. Як вярнуся я ўжо да хаты, на шрубах ложак закажу. Як захачу, так пакручу, і будзеш, паня дабрадзейка, заўсёды у маіх нагах.

Сьмерць

Табе нічога не паможа на шрубах гэты хітры ложак. Як хочаш, так сабе круці, ўсёроўна трэба памярці...

Але пара́ канчаць папас, нам у дарогу ужо час.

Мужык

Пасьпех людзём толькі на сьмех... Вось зараз разьвяжу свой мех...

*(разьвязвае мяшок)*

Ну, лезь, ясна вяльможна!.. Стаў адну ножку... Вось другую... Цяпер прысесьці крыху можна, — за́раз цябе і завяжу я...

Калі пазволіш, дык касу ў руцэ сваёй я панясу, каб не парэзаць новы мех...
Ну, і здарэньне! Проста сьмех!...

*(Сьмерць улезла ў мяшок, Мужык яе завязвае).*

Мужык

Вось так... цяпер яшчэ вось гэтак...
Ня вылезеш ужо ты болей на гэты сьвет хіба ніколі...
І разачка-ж у маім брусе прайшла ўжо назаўсёды мусіць...
Буду здароў і буду жыць, няма чаго цяпер тужыць!..

Чаму-ж мне ня пець,
чаму ня гудзець, машочку
калі Сьмерць ў мяшку маім
век будзе сядзець...

*(выходзіць, ускінуўшы мех на плечы.)*

ЗАСЛОНА.

# *АБРАЗОК ПЕРШЫ*

АСОБЫ:

Альхэмік

Сыльвук, ягоны слуга

Мужык

Сьмерць

Старожа

*У майстроўні Альхэміка.*

Сыльвук

Спадар мой, дохтар!...
Вось вы ўсё мучыцеся, нешта ўсё жарыце, нешта ўсё варыце, пераліваеце ды расьціраеце — і гэтак без канца...
А з гэтага няма ніякае карысьці!...
Ваш «эліксір жыцьця» ня надта памагае... Бурмістр гарачку, кажуць, мае і ўжо бяз памяці ляжыць...

Альхэмік

Бурмістр гарачку, кажаш, мае?...

Сыльвук

Ня гневайцеся, мой спадар!... Ня я кажу, так кажуць людзі: ад вашых лекаў, спадар дохтар, наш бурмістр доўга жыць ня будзе.

Альхэмік

Ад маіх лекаў?!...

Сыльвук

Ой, спадар дохтар! Хоць і цяжка, сказаць вам мушу праўду ўсеньку: казаў адзін мне пакаёвец, што ён канае памаленьку, ягоны твар ужо ўвесь сіны, — палічаны яго часіны... І толькі вас ўсе вінавацяць.

Альхэмік

Мяне?... вінавацяць?...

Сыльвук

Казаў яшчэ другі і трэйці, што ува ўсім віна вашэці, што сваім гэтым эліксірам вы пацыента атруцілі...
І страх падумаць, мой ты Божа, як скончыцца ўсё гэта можа!

Альхэмік

Бурмістр гаручку, кажуць, ма́е і памаленьку ўжо канае... І кажуць, што віна мая, што вінаваты толькі я!... о, Божа!... Каб ашчасьлівіць ўсіх людзей, каб іх ад Сьмерці ратаваць, я мучыўся з усенькіх сіл і выдумаў мой эліксір... За працай я уцех ня бачыў, бязвыхадна тут клапачуся... Нічога-ж я не перайначыў, — людзей ўсьцяж косіць Сьмерць-Кастуся...
Ні ад каго нідзе падзякі за сваю працу я ня маю, замест славы і падзякі цяпер вязьніцы ўжо чакаю...
Кажуць, што бурмістру пашкодзіў мой «эліксір жыцьця» цудоўны — вось нага-

рода за ўсю працу, — вось ~~лёс~~ доля вучонага заўсёдны!...

А можа, не пераскачыўшы, зара́на йшчэ сказаў я «гоп» — і ўзапраўды шмат памыліўся, паставіўшы мой гараскоп... Ня тую выбраў мо' плянэту, дык эліксір мой не памог, і сяньня за памылку гэту мне прыдзецца ісьці ў вастрог?...

### Сыльвук

А мне, на мой дурненькі розум, здаецца гэтак: спадар дохтар! кінулі-б працай забівацца, пайшлі-бы крыху прагулятца!...

А гэтак весела у месьце! Усякага народу поўна! Дзяўчат прыгожых і жанчынаў — маўляў што красачак ўсё роўна!...

Крамы багатыя!... Людзі ўсялякія ідуць і едуць быццам на фэст!... У трубы дзьмуць, у барабаны б'юць, а ў корчмах людцы вясёлыя віно і мёд п'юць...

Вось сяньня быў я на Імбарах... Цікаўна, весела, аж страх!...

Ў той час папаў я акурат, як адсякаў галаву кат разбойніку на эшафоце... А людзі ўсё ідуць ды йдуць, — няма на'т палец дзе ўваткнуць... Кажны хоча паглядзець, — не штодня-жа гэта бачыш!... Народ прад ратушам таўчэцца, кажны лезе, кажны прэцца...

І мяне ўзяла цікавасьць, хацеў паглядзець і я... Бачу: пры сьцяне драбіна, нехта там яе пакінуў... На драбіну я узьлез

і стуль бачыў ўсё як сьлед... Расказаць вам гэта мушу, што я бачыў прад ратушам...
Нейкі ўкленчыў на шафоце, галаў склаўшы на пянёк... Кат мячом як размахнецца, як мячом гэтым сякне, — галава так і пакацілась, страшна аж зрабілась мне... А крыві, крыві-ж было! Эшафот ўвесь заліло...
Тут падскочылі яшчэ нейкія два дзяцюкі, катавы памоцнікі мабыць... Але болей я ня бачыў, бо народ заварушыўся, павалілася драбіна і упаў я на зямлю... Йшчэ дагэтуль баліць сьпіна...

Альхэмік

Скруціш галаву сваю, як цягацца будзеш ўсюды і свой нос ўсюды саваць... Болей ў хаце трэ' сядзець, за парадкам тут глядзець... Бачыш? дроў ужо няма! няма так-жа і вугля! А мне лекі трэ' варыць...

*(чутно стук калатушкай у браму)*

Глянь, хто тамака стучыць?

Сыльвук
*(выходзіць)*

Альхэмік

Калі бурмістр наш памрэ, можа гэтак быць і мне... У вастрог мяне папруць, пасьля голаў адсякуць...
Дзіўна! «эліксір жыцьця» памагчы яму ня мог!...

Калі не паможа Бог, справа дрэнная мая!...
А мо' раптам пакрапчэе, ўстане і паздаравее? Можа Бог ратунак дасьць, можа мне ня дасьць прапасьць!...
Хто-ж там стукаўся цяпер? Мо' прыйшла ўжо старожа, каб забраць мяне? о Божа!...

Сыльвук

*(уваходзіць)*

Мужык там нейкі пад дзьвярмі... Пытаецца, ці прыймем мы? Кажа, вас ён бачыць хоча ды яшчэ нешта балбоча, — ўсё ня мог я зразумеці...

І ўсьцяж прэцца да вашэці... Мяшок мáе на плячох ды ўсё стогне: ах і ох!... Выглядае небагата, але мусіць хворы надта.

Альхэмік

Няхай з Богам ідзе ён, гані яго адсюль вон! Хай дзе хоча там ідзе, галавы ня дурыць мне!...

Сыльвук

*(выходзіць)*

Альхэмік

А мо' мужыка прыняць? эліксіру яму даць? сілу лекаў спрабаваць яшчэ раз? За яго малы адказ! Хай так будзе! Яшчэ раз сваіх лекаў сілу-моц паспрабую на ім я... Як памрэ дык не бяда!...

Сыльвук

*(уваходзіць)*

Мужык ня хоча йсьці дамоў, ня цямлю

я ягоных слоў... Кажа, Сьмерць прынёс ў мяшку... Ніяк яго не разьбяру.

Альхэмік

Пусьці яго сюды, Сыльвук!

Сыльвук

*(кліча за дзьверы)*

Хадзі, пазбаўся сваіх мук! Хадзі, хадзі сюды, мужык!

Мужык

*(уваходзіць)*

Вяльможны дохтар! памажы! ад разачкі ратуй мяне! Нейкае зельле мне звары!

Альхэмік

Што табе баліць, кажы?

Мужык

Ах, мой добры дахтарочак! баліць страшэнна жываточак! такая разачка аж страх! ўжо ледзь трымаюсь на нагах! Надзея ўся толькі на вас.

Альхэмік

Цябе я вылячу зараз... Вось маеш: «эліксір жыцьця»...

Мужык

А што, пытаюся, ~~зь ім~~ рабіць? ці як ваду яго трэ' піць, ці бруха ім пашмараваць?

Альхэмік

Як толькі бруха забаліць, трэба пакрысе чаркай піць... Будзеш ізноў, як быў, здароў.

Мужык

О, дзякуй, дзякуй мой вы збаўца! За гэта дам я вам гасьцінчык...

*(дае Альхэміку мех)*

Альхэмік

А гэта-ж што? Кпінкі зь мяне? Нашто мне гэты мех касьцей? Адразу-бы цябе прагнаў, каб гэта ведаў я раней.

Мужык

Цсс! Гэта ня косьці...

Альхэмік

Бранчыць штосьці...

Мужык

Гэта — яна!...

Альхэмік

Хто: яна?

Мужык

Сама...

Альхэмік

Хто?... Не разумею я цябе.

Мужык

Кастуся! — Сьмерць!

Альхэмік

Ага! Скуль узяў яе?

Мужык

Ішла... Замарылася... Паднясьці прасілася... Я яе ў мех завязаў!... Вось і ўвесь сьмех!...

Альхэмік

Ня брэшаш ты?

Мужык

Дык пагля́дзі!... Але асьцярожна, бо ўцячэ...

Альхэмік

Куды-ж яе?...

Мужык

Схавай добра, дахтарок! Ня дужа крэпкі мой мяшок... Пацукі перагрызуць і празь дзірку уцячэ.

Альхэмік

Сыльвук! шпарчэй! сюды! Хадзі барджэй ты да мяне!... Бочку са сьпіртам адчыняй, вялікі камень пашукай, мы ў бочку упіхнём яе.

Сыльвук

Ужо, ужо бягу, спадар!... Вось гэта дык багаты дар! Мужык гэткі непаказны, а гасьцінец гэткі важны.

Альхэмік

А я думаў: прынёс косьці... а ён вось якога госьця...

*(упіхаюць мяшок у бочку)*

Мужык

Яна́ мне дык непатрэбна... Дзе падзену скарб я гэткі? — У мяне малыя дзеткі... Празь цікавасьць мех разьвяжуць або некаму пакажуць — і паганая ўцячэ...

А у вас тутка зацішша... ні сабак тут, ані мышай. Тут сядзець будзе яна ажно да сьвету канца.
А! пішчыць! Ну што? нядобра? а людзям з табой салодка?

Сыльвук

Тут табе, мая малодка, хай памокнуць крыху робры...

Альхэмік

Ты наш вораг найстрашнейшы! прападай тут праклятая!

Сьмерць

Людзі!...

Сыльвук

Гавора нешта...

Сьмерць

Людзі!... Вы ня ведаеце, што робіце! Шалёныя! Вы сьцягнеце праклён на свае галовы!... Няшчасныя!... Сьмерць павінна жыць, бо безь мяне жыцьцё людзям будзе неўмагату!...

Альхэмік

Няма што тут слухаць пустыя словы... Сыльвук! ці ўсё ужо гатова? шчыльней бочку накрывай!... цяпер камень падавай... Вось так. Вось усё! Ня вылезеш адгэтуль ужо!

Мужык

А я пайду ўжо да Вульляны... Дзякуй

вам, дохтар каханы! Як ляксір мне дасьць падмогу, памалюся за вас Богу.

Альхэмік

Чалавеча! чакай крыху! За гасьцінец дам заплату. За гэтакі падарунак заплачу табе багата.
Вазьмі гэты капшук, брат, грошы знойдзеш у ім шмат.

Мужык

А дай Бог вам усяго чыста... Я зусім не спадзяваўся, што за гэткую паскуду абдароны шчодра буду. Калі так, маеш яшчэ, ўжо з сабой не панясу...
Бяры гэту і касу!... Будзь здароў, мой дахтарочак!

*(выходзіць)*

Альхэмік

Не баюся нічагутка, — бурмістр будзе здароў хутка... Як Сьмерць ў бочцы замкнуў я, глупства «эліксір жыцьця»!... Безь яго цяпер ўсе людзі шчасьце ўжо спазнаюць ўсе.

*(за сцэнай гоман)*

Яшчэ нехта да мяне? Чую гоман, скрыпяць сходы, ідзе нехта да гасподы... Паглядзі, Сыльвук, за дзьверы!

Сыльвук

*(выйшаў і хутка вярнуўся)*

Ох, мне боязна бязь меры! — гарадзкая

там старожа... Усе настроены варожа... вас шукаюць, гаспадар!

Альхэмік

Ўжо ня зробяць мне нічога, не баюся я нікога!... Сьмерць зачынена сядзіць... Веру крэпка, як у Бога, што наш бурмістр будзе жыць!

*(уваходзіць гарадзкая старожа)*

Начальнік старожы

Спадар дохтар! Вы абвінавачаны ў тым, што нейкім «эліксірам жыцьця», як вы яго называлі, а ўзапраўды «эліксірам сьмерці» за намовай нашых ворагаў вы атруцілі бурмістра. Хадзеце з намі!

Альхэмік

Куды?

Начальнік старожы

У вязьніцу. Бурмістр канае. Як ён памрэ, гарадзкі кат адсячэ вам за гэта злачынства галаву.

Альхэмік

Хадзем! Я іду сьмела, бо бурмістр будзе жыць!

Начальнік старожы

Дай, Божа! пабачымо... А цяпер ідзем!

ЗАСЛОНА

# *АБРАЗОК ДРУГІ*

АСОБЫ:

Старая Ведзьма

Агапка, маладая ведзьма

Рыцар

Чорт

*У ведзьмавай хаце. Старая Ведзьма стаіць каля печы. У печы на вагні стаіць саганчык. Ведзьма дзьмухае ў вагонь.*

Старая Ведзьма

Ня хочуць трэскі разгарацца... Ну, і як тут не злавацца! Мая Агапка хіба йзноў мне нашчапала мокрых дроў!... Ах, зь ёю чыстая бяда!... Усё рабіць мушу сама!...

*(дзьмухае)*

О, ужо ледзь-ледзь пачынаюць зноў гарэць... А каб гэта ўзяла трасца! кажана́ зварыць ня ўдасца... А кажанавыя косьці мне патрэбныя для чараў...

*(У коміне чуцен шум, сьвіст, трэск)*

О! сьпяшаюцца ўжо госьці...

Чорт

*(улятае праз комін, перавярнуўшы сaганчык)*

Старая Ведзьма

А каб цябе!... што нарабіў! Саганчык мне ледзь не разьбіў...

*(падыймае з падлогі саганчык)*

Нашто-ж гаршкі ў дарозе біць?... Памалу! справа не гарыць...

Чорт

Гарыць, кума, ой, як гарыць!... Страшэнна я сьпяшаюся... Ты не паверыш мне, кума: часінкі вольнае няма! Ад раніцы ўсьцяж на нагах, аж выступіў пот на рагах, ўвесь дзень маўляў у калаўроце, ўвесь мокры, ўвесь у поце...
Ўсе ведзьмы трэ' паведаміць, ўсе бязумоўна мусяць быць ў вячэрняй сяньняшняй пары на лысай Шэшкіняй гары.

Старая Ведзьма

Дзеля чаго? чаму так рана? чаму ўсё так неспадзявана? Нядаўна-ж быў агульны сход! Нашто-ж зноў клікаць наш род?

Чорт

Скуль, даражэнькая кума, аб гэтым мог-бы ведаць я!? Чарцюк я невялічкі, шэры, баюсь Люцыпара бязь меры...
Навошта? — справа не мая, спытацца не паважусь я...

Такая у мяне ўжо служба, а служба, ведама, ня дружба... Люцыпар мне ні брат, ні сват...
Калі ўжо дадзены загад, дык выканай хоць рад-ня-рад, дык выканай, хоць ты сканай!...
Казалі: прыйдзе першы май і будзе для мяне аванс... Усё брахня! Гаруй, чакай, а на аванс няма ўжо шанс...
Сяньня, кума, сход надта важны, — мусіць зьявіцца ўсякі, кажны... Кажуць, што сяньня будзе там нават наш пан — Люцыпар сам!

Старая Ведзьма

Няўжо-ж? што кажаш! будзе сам?... Вялікай, значыцца, вагі пытаньні будуць вырашацца!

Чорт

Не дагадаешся і ты. Ніхто ня можа дагадацца...
Маруджу ў хаце я тваей, а трэба ўжо ляцець далей!

Старая Ведзьма

Празь дзьверы можа, галубок! Нікога там няма, кумок!

Чорт

Праз комін будзе мне зручней... Бывай!... Дык сяньня уначы пабачымося на гары...

*(вылятае праз комін; шум, сьвіст і трэск, як раней)*

Старая Ведзьма

*(крычыць у комін)*

Бывай! шчасьліва, мой каток! мой бедненькі ты галубок!... На раздарожжы асьцярожна, — там зачапіцца за крыж можна...

*(адна)*

Агапкі ўсьцяж няма й няма!... куды-ж падзелася яна?... Ўсё на маей ўсьцяж галаве, ўсе толькі клопаты на мне!...

Агапка

*(уваходзіць)*

Старая Ведзьма

*(да Агапкі)*

Вось лёгкая ты на ўспамін... Звалілась, як з патэльні блін... Дзе-ж гэтак доўга ты была?... Ну, добра, што ўжо прыйшла...

Агапка

Была, дзе трэба было быць... Мяне запозна ўжо вучыць!... Я ўжо ня гэткая малая, — свой розум я таксама маю...

*(нюхае паветра)*

Што тутка серкай так сьмярдзіць? Зноў нейкі чарцянюк мабыць зь візытай быў?

Старая Ведзьма

Ціха, Агапка, ня крычы! Хіба што ашалела ты!... Раптам яшчэ нехта пачуе!... Мы маемо і так благую ўжо славу у

людзей... Маўчы ляпей! Ці ўжо забылась ты, як спалілі на кастры тваю маці?!..
Але, — бачу, што ня ў смак табе наш чартоўскі пах... Цябе слухаць — проста жах! Не прызнаеш сваей радні... А сама хто, хто-жа ты? — Ты-жа ведзьма з бабкі, маткі... Знаеш нашыя парадкі... Кажна ведзьма, кажны чорт — твая цётка або брат...
Як-жа сьмееш аб радні без пашаны казаць так! Калі чорт табе сьмярдзіць, зь кім-жа тады хочаш жыць?

Агапка

Я не кажу, каб усе чэрці не падабаліся мне надта. Чарцей усякіх ёсьць багата... Бывае іншы і бяз шэрсьці, бывае нават і прыгожы і спадабацца вельмі можа...
Але ня той, што ў нас бывае, сьвіночую што морду мáе... З усімі прэцца ў карагод, а сам дурны як стары бот.

Старая Ведзьма

А што-ж ты-б можа захацела, каб сам Люцыпар?... Эх, дадзела мне гэта гутарка з табой! Важнейшыя цяпер ёсьць справы!.. Трэба сьпяшацца ўсім на сход, дзе будзе ўвесь нячысты род...
Сягоньня будзеш там і ты, дык прыгатуй нам дзьве мятлы...

Агапка

Не паляту я на мятле! — мятла мне не да

твару, я выглядаю на ёй стара, мне прыгажэй на качарзе.

Старая Ведзьма

Ты не аб твару сваім думай, а аб тым, каб не спазьніцца! Як не зьявімося ў пору, будзе многа бяды-гора... Нас Люцыпар пакарае...

*(чутно стук у дзьверы)*

Вось ня ў пору госьця маем!

Рыцар

*(за дзьвярыма)*

Адчыняй, ведзьма старая!

Старая Ведзьма

*(да Агапкі ціха)*

Скажы, што мяне няма.

Агапка

Цёткі тут маей няма.

Рыцар

Дзе-ж падзелася, халера? Адчыняй хутчэй мне дзьверы! Пусьці ў хату, гляну сам.

Агапка

А хто там?

Рыцар

Ня памятаеш ўжо мяне? А каб з табой спазнаўся кат! Я-ж у цябе тутака быў толькі ўсяго тры дні назад.

Старая Ведзьма

*(да Агапкі)*

А, гэта рыцар, які раз прыходзіў тутака да нас... Тады багата заплаціў... Пусьці у хату, адчыні!

Агапка

*(адчыняе дзьверы)*

Рыцар

*(уваходзіць)*

А, ты ведзьма! ты праклята! Набрахала! ашукала!

Старая Ведзьма

Мыляецеся, міласьць ваша! Я ніколі йшчэ нікога у жыцьці не ашукала. Асабліва-ж вашу міласьць, які над бядою нашай мае гэтакую літасьць: не шкадуе сваіх грошай для мяне — бабулькі беднай.

Рыцар

«Бабулькі беднай!...»
Я табе твае сівыя кудлы ўсе павырываю, я зь цябе, мая «бабулька», квашаніну ўміг зраблю!...

Старая Ведзьма

Але за што-ж, ваша міласьць? Ўцяміць ніяк не магу...

Рыцар

Ты йшчэ важышся пытацца! Ты падлюга! ты гадзюга!... А за гэта сама зельле,

што дала тры дні назад... Я весёлы быў і рад, думаў: дзядзька мой памрэ, а ён, гад, жыве, жыве; сьмерці Бог ўсё не дае!

Старая Ведзьма

А каб лопнулі мне вочы, каб не дачакалась ночы, каб ня бачыла я сонца, кабы мне адсохлі рукі, найстрашнейшыя каб мукі я цярпела ўсьцяж бясконца, калі зь сіл маіх усенькіх памагчы вам не хацела!...

Няўжо-ж дзядзенька міленькі ўсё жыве — здаровы, цэлы?

Рыцар

І ня думае паміраць!

Старая Ведзьма

Дзіва дый толькі!... Жыву гадоў столькі і першы раз чую навіну такую...
Мо' вы памыліліся: ня так заварылі?
далі мо' замала, ня так, як казала?

Рыцар

Ўсё як трэба, ўсё як сьлед, так як ты мяне вучыла, а стары жыве здароў, аж [redacted] ужо ~~мне~~ жыцьцё няміла...

А час ляціць, трэба сьпяшыць, бо жыды чакаць ня хочуць, ўсё сакочуць, ўсё хлапочуць, каб мяне ў вастрог ўсадзіць. Ўся надзея на цябе, што паможаш, ведзьма ты, дзядзьку са сьвету зьвясьці, зь бяды вызваліш мяне.

Дзядзька жмінда, ён багаты, грошай мае надта шмат, але мне даваць ня хоча, для мяне ён проста кат.
Што рабіць, я сам ня знаю, як пазбыцца мне даўгоў, скуль ўзяць грошы для жыдоў, калі шэлега ня маю? ...

Старая Ведзьма

Як-жа-ж гэта? як-жа так? — ўцяміць не магу ніяк. Маё зельле сілу мела, яго ўсім давала сьмела, ніхто доўга не пажыў, зараз-жа нябожчык быў...
А цяпер — хіба што чары? Але-ж чары і я знаю!... Дык чаму-ж мая атрута сілы ніякой ня мае?!
Ня уцямлю, не згадаю, нічагусенькі ня знаю...
Вось цяпер дам, міласьць ваша, вам атруты яшчэ пляшку, — калі гэта не паможа, памагчы нішто ня можа.

Рыцар

Хутчэй, ведзьма, мне давай!...

*(бярэ атруту)*

Сьпяшу да дзядзькі... Ну, бывай!
Як памрэ — дык заплачу, як памрэ — азалачу; як жыць будзе, дык цябе акалечу і заб'ю!

*(выходзіць)*

Старая Ведзьма

Бывайце здаравенькі, шляхотны рыцар! Гэта пляшка, думаю, што вам паможа!...

І памятайце аб беднай бабуленьцы, якая памагла вам у вашай бядзе...
Дзіва! Дзіва! Маё зельле сілу страціла...

*(раптам у ейнай галаве зьявілася неспадзяваная думка)*

Агапка! а можа гэта... можа...

Агапка

Што, цётка?

Старая Ведзьма

Я ўжо ведаю дзеля чаго сяньня сход на Шэшкіняй гары: яе няма!... Людзі ня ўміраюць!... Яна — прапала!!

Агапка

Хто, цётка?

Старая Ведзьма

Яна — Сьмерць!...

ЗАСЛОНА.

# *АБРАЗОК ТРЭЙЦІ*

АСОБЫ:

Мужык

Старая Ведзьма

Агапка

Рыцар

*Перад хатай ведзьмы.*

Мужык

*(за сцэнай пяе)*

Я ў Тацяны начаваў, у Марусі мыўся,
праз аконца уцякаў і порткі забыўся...

*(уваходзіць на сцэну, добра падвыпіўшы)*

Куды-ж гэта я лучыў?... Далібог у Вільні заблудзіўся!...

*(глядзіць на хату)*

А гэта што? Выглядае як карчма. Добра было-б выпіць яшчэ чарачку... Найгоршая рэч, калі чалавек не дап'е!...

А рэзачка ужо зусім прайшла... Ня ведаю толькі, ці дохтар мне памог ці гарэлка? Шкада, што я адразу замест усіх гэтых лекаў не дадумаўся да гэтага...

Вось ужо тры дні бадзяюся па Вільні. Дай, Божа, здароўя гэтаму дохтару ня гэтулькі за ляксір, колькі за грошы... Яшчэ ёсьць грошы ў капшуку. Яшчэ ўсіх не прапіў... І не прап'ю! Вульляне прынясу!... — Маеш! — скажу, — тавар прадаў!... Тавар! Хі-хі-хі!... Добры тавар!...
Але што думае мая Вульляна? Пайшоў у Вільню і трэйці дзень не варочаецца!... Куды-ж гэта — думае — падзеўся мой мужык?... Ха-ха-ха!...

*(пяе)*

Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
Я гарэлку ў Вільні піў.
Выпіў чарку, другую,
Ўзяў дзеўку любую...

Вульляна можа падумае, што я п'яніца, валацуга... А я, далібог, ня п'яніца! Хто кажа, што я п'яніца? Ніхто! Я толькі п'ю... зь перцам, каб вылячыць мой жываточак... Што мая баба падумае, гэта няважна, але што яна зробіць — вось цікавасьць!... Каб толькі качалкай па патыліцы ня змазала, як ужо няраз рабіла... Эх, Божа-ж мой! Якія ўсе бабы дурныя! Я-ж гэта для здароўя п'ю!

*(б'ецца кулаком у грудзі)*

Дзеля свайго здароўя!... Ну, трэба яшчэ адну, апошнюю ужо чарку... Можа дзьве, ну, мо' са тры, найбольш — чаты-

ры, пятай ужо піць ня буду, хіба што... выпʼю і пятую... разам із шостай... Э, Бог бацька! Пабачым, як там будзе!...

*(глядзіць на хату)*

Карчма ці не карчма? Мусіць карчма. Напэўна карчма!

*(чутно голас Рыцара за сцэнай)*

Вось і нейкі пʼяны крычыць, мабыць гарэлкі напавер не даюць... А я ма́ю грошы! Вось! — дзінь, дзінь, дзінь!

*(трасе капшуком)*

Рыцар

*(за сцэнай)*

...Я табе твае сівыя кудлы ўсе павырываю! я зь цябе, мая «бабулька», квашаніну ўміг зраблю!...

Мужык

*(прыслухоўваецца)*

Сярдзіты нейкі пан! Правільна! Гэтак і трэба! Зь імі інакш нельга! А то — расшчэпіць крэйду і — шасьць! падвойна запіша...
А я ма́ю грошы! Мне ня трэба напавер!
Я пʼю і плачу! Дзінь, дзінь, дзінь! Плачу!!

*(пяе)*

Я плачу, я плачу, я гарэлкі хачу!..

*(стукае ў дзьверы)*

Адчыні!..

*(паўза)*

Ня пуска́е паскуда!.. Я плачу! заплачу! Грошы ёсьць... Ух! шэльмы!

Рыцар

*(выходзіць з хаты)*

Хто шэльмы? Ты што тут?.. Падслухаваеш? Кажы, што чуў? Хто цябе сюды падасла́ў? Кажы, што чуў, бо засяку цябе мячом!..

Мужык

Панок! Ня чуў! Далібог, нічога ня чуў! Я-ж і сам добра ведаю, што яны, сьцервы, ня любяць даваць напаве́р... А я глухі, як пень! З таго часу, як дзіцянём з калыскі вываліўся, нічога ня чую, аглох зусім чыста!

Рыцар

А скуль-жа ты ведаеш, што я кажу?

Мужык

Гэта па губах, ваша міласьць! Бо я зусім глухі! Вось ваша міласьць крычыць на мяне, а мне здаецца, што гэта вецярок у лісьці шапоча... Я толькі па губах панскіх дагадваюся, што ваша міласьць кажа, гэтак ужо прывыкшы змалку дзён, — па губах...

Рыцар

Ну, калі так, дык тваё шчасьце!

*(выходзіць)*

Мужык

Бачыш яго, які сярдзіты! Ганорны нейкі мусіць пан! Сароміцца, што шынкарка не хацела даць гарэлкі напаве́р...

*(стукае ў дзьверы)*

Ну, адчыняй!

Агапка

*(за сцэнай)*

Хто там?

Мужык

Пусьці!

Агапка

*(за сцэнай)*

Хто такі?

Мужык

Падарожны.

Агапка

*(за сцэнай)*

Ня можна.

Мужык

Пусьці!

Агапка

*(за сцэнай)*

Чаго?

Мужык

Гарэлкі дай!

Агапка

*(за сцэнай)*

Няма.

Мужык

Чаму?

Агапка

*(за сцэнай)*

Тут не карчма́.

Мужык

А што-жа тутка?

Агапка

*(за сцэнай)*

Ідзі сваёй дарогай хутка!

Мужык

А вось гэты рыцар, што тут быў, пляшку панёс, я добра ба́чыў... А я за грошы, мне ня трэба напаве́р... Я ма́ю грошай шмат! Колькі хочаш магу даць! Вось паслухай, як зьвіняць!

*(трасе капшуком)*

Я заплачу!..

Агапка

*(за сцэнай)*

Адчапіся, я кажу!

Мужык

Не адчаплюся! Дай гарэлкі! А то дзьверы ламаць буду!

Старая Ведзьма

*(за сцэнай)*

Вон гнаць гэтага прыблуду! Дай качаргой яму па ка́рку!

Агапка

*(выбягае з хаты і б'ець Мужыка качаргой)*

Вось табе, п'яніца! Вось!

Мужык

Што ты, дзеўка, ашалела? Чаго б'ешся як халера?

*(З рукі Мужыкаываліўся капшук і грошы рассыпаліся па зямлі)*

Агапка

*(пабачыўшы грошы)*

Ааа! скуль у цябе гэтулькі грошай?

Мужык

Ага! цяпер інакш гаворыш!

Агапка

Скуль гэтак грошай шмат набраў?

Мужык

*(зьбіраючы грошы)*

Ня бойся... Нікога ні зарэзаў, ні абкраў... Тавар прадаў!.. Хэ-хэ-хэ! Мяшок касьцей прадаў!

Агапка

*(не разумеючы)*

Мяшок?.. Касьцей?..

Мужык

Дурная!.. Сьмерць прадаў!

Агапка

Ааа! Сьмерць?!.. Цётка! сюды! барджэй!

Мужык

Нашто нам цётка? Нам добра і бязь цёткі!

*(пяе)*

Чырвона, прыгожа каліна-маліна,
Чырваней, прыгажэй любая дзяўчына.
За пляшачку возьмець — гарэлачка льлецца,
За чарачку возьмець — гарэлачка п'ецца...

*(гаворыць)*

Добра, што мая Вульляна ня бачыць!..

*(абыймае Агапку)*

Агапка

Дзе ты яе спаткаў?

Мужык

Каго? Ха-ха! Сьмерць?.. Іду я ў Вільню, сеў супачыць, ажно бачу: вылазіць наздрата-лупата...

Старая Ведзьма

*(высоўвае галаву праз дзьверы і слухае)*

Мужык

— Паднясі! — кажа... Ну, я яе ў мех,

завязаў і прадаў, ха-ха-ха! адзін сьмех!.. І рэзачка ужо прайшла...

Агапка

Дзе яна?

Мужык

Хто? рэзачка? Мабыць ад гарэлкі прайшла... Дохтар даў мне свой ляксір, але ён ня даў мне сіл, гарэлка больш мне памагла, адразу рэзачка прайшла...

Агапка

Дзе яна? Сьмерць сама?..

Мужык

А каб цябе ўзялі чэрці! Хочаш ведаць ты аб Сьмерці?.. Не скажу, не скажу!!.. За гарэлку заплачу, але гэта не скажу!.. Хай пішчыць, хай стогне, енчыць, няхай просіць, плача, кленчыць, — ўжо ня выйдзе на сьвет Божы, ёй ніхто ўжо не паможа... Будзе мокнуць, будзе кіснуць, будзе гніць у бочцы вечна ажно да сканчэньня сьвету... подлая паскуда гэта!.. Але дзе — я не скажу, пальцам на'т не пакажу, ані вокам не маргну, ані рот не разьзяву!..
Хай у бочцы там пішчыць, хай нам дасьць спакойна жыць!..

Старая Ведзьма

*(да Мужыка)*

Хадзі, спадар! сюды, хадзі!

*(да Агапкі, ціха)*

Агапка! ты яго цягні! ён нам ўміг усё раскажа, дзе ёсьць Сьмерць ён нам пакажа...

*(да Мужыка)*

Гаспадар! хадзі да нас! Дам гарэлкі смачнай ўраз...

Мужык

Але зь перцам каб была, кабы рэзачка прайшла.
Я-ж казáў, што тут карчмá, а вы ўсё: «няма, няма; мы гáрэлкай не гандлюем...»
Але нос мой добра чуе!.. Я ўжо мáю гэткі нюх, што карчму здалёк спазнаю, гэткі нюх заўсёды мáю!..
Ну, дык пойдзем у гасподу! колькі там ні ёсьць народу — ўсім фундую!!

*(пяе)*

Ехаў, ехаў каля млыну,
Бачыў дзеўку, як маліну!
Як я ехаў, яна спала,
Як я сьвіснуў, яна ўстала...

*(гаворыць)*

Хадзем піць! Грошы ёсьць! Дзінь-дзінь-дзінь!..

*(ідуць у хату)*

ЗАСЛОНА

# *АБРАЗОК ЧАЦЬВЕРТЫ*

АСОБЫ:

Люцыпар

Старая Ведзьма

Агапка

1-шы Чорт

2-гі Чорт

Ведзьмы

Чэрці

*На Шэшкіняй гары пад Вільняй. Здалёк відаць за́мак на Замковай гары, касьцельныя і царкоўныя вежы. Зьмяркаецца. На лысую Шэшкінюю гару зьлятаюцца чарты і ведзьмы на мётлах і качаргах. На вялікім камяні, пасярэдзіне, Люцыпар з козім кадаўбам, з чалавечым тварам.*

Хор ведзьмаў і чарцей

Ведзьмы! ведзьмары! чэрці! упыры! увесь наш нячысты род! усе на сход! Заклікае нас спадар Люцыпар.

Клічце ўсіх, бо бяда страшэнная! — недзе згінула сястра — Сьмерць сама! Па

дарозе ў Вільню йшла бедная і прапáла, і нямá... — вось бяда!
Заглядайце ўсюды вы, ў кажны кут,
трэба вызваліць сястру зь цяжкіх пут...
Можа ведае хто з вас штось аб ёй? мо'
спаткаўся на шляху зь ёй самой?
Абясьсілеўшы ішла бедная, і нідзе яе
нямá... — вось бяда!...

Люцыпар

Усе нячысьцікі сюды!
Ведзьмы! чэрці! упыры!
Я — Люцыпар, — я ваш пан, ваш вучыцель, ваш вялікі, наймудрэйшы, найясьнейшы, геніяльны, найсьвяцейшы, ўсемагутны, неабмыльны, гаспадар ваш, старшыня — адчыняю гэты сход.
Сяньня на парадку дня гэткай справы ёсьць чарод: дзе ёсьць Сьмерць?...
Яе няма!... Дзе яна?
Дзе яна?
Хто казаць аб гэтым хоча, хай гавора, хай прарочa, голас я яму даю думку выказаць сваю.

Усе

Па дарозе ў Вільню йшла бедная і прапала, і няма — вось бяда!

Люцыпар

Калі маеце на мэце справу ўзяць усеба кова, разам ўсе не гаманеце, бо ня дойдзем да нічога, так як гэта было ўчора.
Хай адзін нехта гавора.

1-шы Чорт

Наш вучыцель! наш вялікі! родны бацька наймілейшы! наймудрэйшы! найсьвяцейшы! геніяльны! незраўнальны! правадыр наш! наша сонца! к сьвету яснаму ваконца! ўсемагутны! неабмыльны! над чартамі найвышэйшы! найдужэйшы гаспадар! прашу слова, наш ўладар!

Люцыпар

Ну, таварыш, раскажы, што у думках маеш ты. Толькі шпарка, не цягні, — бо ня шмат мы маем часу. Хутка поўнач ўжо настане, хутка певень запяе, — мы ня можам тут да раньня весьці гутаркі свае.

1-шы Чорт

Згодзіцца тут хіба ўсякі, што сястру нашу сабакі дзесь спаткалі, разарвалі, косточкі парасьцягалі.
Дык канкрэтна ра́ю так: з гіцлям хэўру трэ' зрабіць, ўсіх сабак пералавіць і — расстраляці!

Люцыпар

Эх, дурная твая маці, што такога нарадзіла, ды ў кадушцы не ўтапіла! Дзе-ж на сьвеце гэтка сіла, каб усіх сабак злавіла? І заўсёды там ці тут нейдзе знойдзецца шчанюк — нейкі сукін сын ці ўнук, што прыдбае ціхі кут.
Ня угледзіш, не пабачыш, не даскочыш, не прасочыш увесь гэты род сабачы:

ўлезе у нару адзін сукін сын — і будзе жыць!... І зусім ня ў гэтым справа, каб сабачая гара́ва зь зямлі шчэзла ўся бясьсьледна. Будзеш рэзаць, страляць будзеш, — Сьмерці з бруха не дабудзеш... Дый не у сабачым брусе апынулася Кастуся, — ня кусок-жа гэта сала, каб сабакі маглі ўзяць, — ў іншым месцы трэ' шукаць...

Дзе падзелась? дзе прапала?... Вось-жа справа: хто меў права Сьмерць са сьвету зьвесьці ці схаваць?

Не сабача гэта сіла сястру нашу дзесь зарыла, але той, каму няміла Сьмерці сіла, хто баіцца сілы гэтай і, бясспрэчна, каму сьніцца жыцьцё вечна, — той яе спагнаў са сьвету!

*(да 1-га Чарта)*

Ты, брат, шкоднік, ты — «вредитель»! Каб запраўднага злачынца нам трудней было знайсьці, хацеў нашу ўвагу ты ў іншы бок накіраваць... Цябе трэба пакараць!

Твае ўзяўшы на вагу ўсе заслугі, што дагэтуль ты для нас тут палажыў, за цяжкую віну гэту вось які прысуд магу цяпер вынесьці табе: дагэтуль будзеш у балоце сядзець бязвыхадна ноч-дзень ажно абернешся памалу ў трухлявы, гнілаваты пень. Да нас, у пекла, ўжо ніколі ня вернешся, злачынца, болей!

Хто проці?... ёсьць?... ніхто?... няма?..., пастанова прынята.

1-шы Чорт

Наймудрэйшы, найсьвяцейшы, геніяльны наш вучыцель!...

Люцыпар

Чаго хочаш?

1-шы Чорт

Родны бацька наймілейшы! Прашу кары найсражэйшай! Сражэй трэба пакараць! Мяне трэба расстралянць, каб для іншых прыклад быў...

Люцыпар

Пайшоў вон!!!

1-шы Чорт

*(вылятáе)*

Люцыпар

Хоча хто яшчэ казаць?

Усе

*(маўчаць)*

2-гі Чорт

Нейкі шум чуваць...

Люцыпар

Што гэта? нехта спозьнены ляціць... Як можна гэтак шмат пазьніцца!... За гэта дзесяць год вязьніцы!...

2-гі Чорт

Дзьве ведзьмы тутака імкнуцца: адна на качарзе, другая на мятле...

Старая Ведзьма з Агапкай

*(прылятаюць)*

Старая Ведзьма

Геніяльны, нязвычайны, бацька наш і старшыня! Дарагі спадар Люцыпар!...

Люцыпар

Годзе! часу ўжо няма!... Чаму гэтак вы спазьніліся?

Старая Ведзьма

Бацька наш! вучыцель наш! Сьмерць знайшлась!

Усе

*(парушаныя)*

Што ты кажаш! Дзе-жа? дзе? Дзе ты бачыла яе?

Старая Ведзьма

Недалёчка, блізюсенька... ў бочцы мучыцца міленька... Тут у Вільні, ў самой Вільні у Альхэміка сядзіць!

Усе

Гэткі дужы, гэткі сільны, што Сьмерць перад ім дрыжыць!

Старая Ведзьма

Недалёчка, блізюсенька ў бочцы мучыцца міленька...

Усе

Пойдзем разам грамадой! аслабонім Сьмерць ад мук!

Люцыпар

Не сьпяшайцесь! Чакай!... стой!... Ці вы ўсе тут ашалелі? з глузду зьехалі? здурэлі?... Стойце! не сьпяшайцеся! Чуй загад! Кажу вам я: не парадзіце нічога, бо Альхэмік вера ў Бога, з хаты вас прагоне ўсіх, — абароніць яго крыж! Перад крыжам кажны здасца... Кажнага з вас возьме трасца, як пабачыць крыж сьвяты... Нам дарога ня туды! Дзе ня зможа чорт, там баба можа ўсё наладзіць спрытна... Ведзьмы! ведзьмы! ваш чарод і надзея ўся на вас... Дык-жа ўсе за працу ўраз! Пакідайце Альшпарка сход і бяжэце, і сьпяшэце Альхэміка спакушаць, Сьмерць зь няволі ратаваць!...

Такжа і для вас, чарты, праца ёсьць, таварышы! Гэй-жа жвава разьбягайцесь, ў горадзе людзей бунтуйце, проці дохтара цкавайце і страшную помсту куйце!...

Самі людзі пакараюць таго, хто ад іх хаваець Сьмерць.
Ужо поўнач надыходзе, зараз певень запяе... Справы скончаны усе...
Зачыняю гэты сход!

*Певень пяе. Усё чэзьне.*

ЗАСЛОНА.

## *АБРАЗОК ПЯТЫ*

АСОБЫ:

Далакоп

Сталяр

Ксёндз

Поп

Чорт у кунтушы

Першы Шляхціч

Другі Шляхціч

Трэйці Шляхціч

Рыцар

Жыд

Татарын

Баба з блінамі

Баба з калдунамі

Народ: шляхта, мяшчане

*Гоман вуліцы, заклікі гандляроў.*
*Сьляпы лірнік грае на ліры.*

Баба з блінамі

Бліны хто хоча зь верашчакай? Каму, каму бліны?... Бліны! бліны!

Баба з калдунамі

Каму з вас, спадары, гарачанькія калдуны?... Калдуны! калдуны!

Жыд

*(каля сваёй крамы)*

Сюды хадзеце, гаспадар! Вы гляньце толькі на тавар! Ёсьць паясы тканыя, золатам вышываныя, ёсьць аксаміты, шоўк, атлас, сукно, камлет і адамашк!... Даю слова, только вам танна гэта ўсё прадам... Гаспадар! хадзі! чакай! ты толькі глянь, не уцякай!

Татарын

*(перад сваёй крамай)*

Халва, мігдалы, цынамон, радзынкі і рахатлукум, гарэхі ў мёдзе і мускат, імбір, дактылі, вінаград, — ўсяго вялікі выбар ма́ю, паспрабаваць ўсяго вам ра́ю, — хадзеце ў крамачку маю, смачныя рэчы прадаю!

Сталяр з Далакопам

*(спатыкаюцца на вуліцы)*

Далакоп

*(да Сталяра)*

Здарова, сябра! што так сумны і высахшы ўвесь як лучына? Зусім, брат, дрэнна выглядаеш, мабыць згрызотаў многа маеш? Скажы, што сталася з табой?

Сталяр

Лепш ня пытайся, дружа мой! Жыцьцё

цяпер для нас ня баль... Жыву бяз працы я амаль, — бяда, што проста аж пішчыць, далей ня ведаю як жыць... Заказаў шмат было заўсёды, як мухі паміраў народ, дык з гэтае наш брат нагоды ня дрэнны меў раней даход... Часы, ах! іншыя былі!... Бывала цэлы дзень майструю, ня скончыўшы аднэй труны, ужо бяруся за другую...
Цяпер нябожчыкаў няма, — ўжо людзі больш не паміраюць, ў маёй майстроўні ўжо дарма́ труны заказчыкаў чакаюць.

Далакоп

Табе я шчыра спачуваю, і мне ня соладка жывецца, таксама хлеба мала ма́ю... Ох, сябра, некуды падзецца! Далей што будзе — страх падумаць!... З чаго жыць будзем — сам Бог знае!... А дзеткі плачуць, просяць есьці, бо ў хату голад заглядае...
Калісьці — глянеш: едзе першы, за ім мярцьвяк другі ўжо прэцца... Здавалася, ня хопіць месца на могілках для ўсіх памершых...
Калісьці — яму ўсьцяж за ямай капаеш новаму ўжо госьцю, аж табе рукі анямеюць, аж ад лапаты баляць косьці!...
Цяпер — ня памятаю нават як хаўтуры, брат, выглядаюць... Няма ні працы, ні даходаў, бо людзі ўжо не паміраюць.
Дай, браце, вып'ем з гора чарку, мо' напавер нам дасьць шынкарка!

*(выходзяць, узяўшыся западпахі)*

## Поп з Ксяндзом
*(спатыкаюцца)*

Поп

Salve, reverendissime!

Ксёндз

Salve, pater carissime!

Поп

Як ма́ецеся? што чуваць?

Ксёндз

А то чуваць, што і відаць... Цяжка сяньня ўсім жывецца!...

Поп

І у мяне не пераліваецца.

Ксёндз

А ў мяне зусім ня льлецца!

Хочаш нешта купіць, мусіш грошы лічыць: ці хопіць, ці зама́ла?...

А калісь інакш бывала, ох, інакш, інакш жылося, ах! зусім, зусім інакш! Было ўсяго дасыта, была чарка наліта, была рыбка ў сьмятане; у сьпіжарні, моспане, сала, кумпяк, вандзонка, каўбаса, сыр, галёнка... Было поўна ўсяго! То кагось пахаваеш, то жалобну ймшу ма́еш, то закажуць экзэквіі, сьвежы грош наплывае, ўжо бяды не спазнаеш!

А цяпер, ах! ня тое, трэ' забыцца старое!... Праўда, ёсьць matrimonia, часам недзе baptismus, вось і ўсе ўжо

даходы, вось заробак увесь!... Грошай ўсьцяж не хапае, як пражыць сам ня знаю, хоць жывы ў зямлю лезь!... Matrimonium, baptismus — вось заробак увесь!.. І што гэта ўсё знача? скуль ўся гэта бяда? Чаму цяпер іначай, — чаму Сьмерці няма?!

*(аглядаецца)*

Таўчэцца тут зашмат народу, нельга пагутарыць спакойна, лепш пойдзем ў нейкую гасподу, засядзем там за кубкам мёду, і аба ўсім там пагаворым, — і чарвяка крыху заморым.

П о п

Гаворыш, ксёндз, як на казаньні, разумныя ўсе вашы словы... А я ня піўшы йшчэ ад раньня, на кубак мёду йсьці гатовы.

*(выходзяць)*

Д в а Ш л я х ц і ч ы

*(спатыкаюцца)*

П е р ш ы Ш л я х ц і ч

Здарова, браце! што з табой? ты, бачу, нейкі сам ня свой... Глядзіш маркотна на мяне быццам сабака у чаўне...

Д р у г і Ш л я х ц і ч

Ах, браце, ма́ю я бяду! Цярпець нямашака ўжо сіл... Адзін нягоднік мне адбіў нявесту мілую маю!...

Першы Шляхціч

Інакшай рады тут няма, як шабляй справу разьвязаць.

Другі Шляхціч

Вось тутака і ўся бяда, што шабляй разьвязаць нельга!

Першы Шляхціч

Чаму, мой браце? Адзін з вас хай засячэ другога ўшчэнт, — і застанецца вось якраз адзіны толькі прэтэндэнт.

Другі Шляхціч

Як ні стараюсь, а забіць ніяк яго я не магу... І толькі раз, адзіны раз яго я раніў у нагу. Мяне таксама ён ня можа ні раніць цяжка, ні забіць. Дык што рабіць, о мой ты Божа! — нельга памерці, нельга жыць!...

Вось ён ідзе!... вось ужо тут гэты праклятьі дух варожы!... З нас будзе аднаму капут, няхай рассудзіць нас суд Божы!...

Трэйці Шляхціч

*(уваходзіць)*

Другі Шляхціч

*(да трэйцяга Шляхціча)*

Гэй, вашэць! шаблю выцягай! бо аднаму напэўна з нас на іншы сьвет ужо дарога!

Першы Шляхціч

Чакайце! тут народу многа... Хадзем ў суседні панадворак!

Трэйці Шляхціч

Мне не страшны ніякі вораг!... З вашэцяй біцца я гатоў.

*(выходзяць)*

Ксёндз і Поп

*(убягаюць за імі)*

Ксёндз

Чакайце, крыху! і я з вамі! памерці без ксяндза ня гожа. Маё вам unctio extrema ісьці на той сьвет шмат award.

*(бяжыць за Шляхцічамі)*

Поп

А можа будуць там патрэбны таксама і мае малебны?... Трэба шпарчэй за імі гнацца, мо' зарабіць крыху удасца...

*(бяжыць за Ксяндзом)*

Сталяр з Далакопам

*(уваходзяць)*

Далакоп

Зьявілась думка ў галаве, вось ра́ду я знайшоў адну: трэба нам кінуцца ў Вяльлю, — тады канец усёй бядзе!

Сталяр

Вяльля таксама не паможа у нашым горы, мой нябожа! Калі на сьвеце няма Сьмерці, дык нельга і ў рацэ памерці. Нам ня удасца утапіцца, толькі вады зашмат напіцца...

Чорт

*(у кунтушы)*

Здаровы будзьце, спадары! Я бачу, вы нявеселы.

Далакоп

А скуль вясёласьць гэту возьмеш, калі так блага нам жывецца? Людзі ўжо больш не паміраюць, жыць будуць вечна так, здаецца.

Чорт

Ці-ж ня было-б ніякай рады на гэта гора, спадары! Сьмерці няма, — шукаць дык трэба, мо' знойдзецца ў якой нары!

Сталяр

А дзе шукаць — вось уся справа! Ці ўлева пойдзеш, ці управа, ня бачыш ты яе нідзе, — ні ў полі, ні у грамадзе.

Чорт

Я вам скажу тут пад сакрэтам: сюды прыйшоў я з гэтай мэтай, каб вам сказаць, дзе ёсьць яна!

Далакоп

Што кажаш! Гэта не мана́? Няўжо-ж, мой мілы спадарэньку, ты нешта ведаеш аб ёй?

Чорт

Чакайце! толькі памаленьку! Туды йсьці трэба грамадой. Трэ', каб сабралась шмат народу, дык вызвалім безь перашкоды.

Сталяр

Я зараз сваякоў паклічу, яны тут зьявяцца уміг.

*(выходзіць)*

Далакоп

Ўсяго найлепшага вам зычу! Іду шукаць братоў сваіх.

*(выходзіць)*

Шляхцічы

*(уваходзяць)*

Другі Шляхціч

Ух, замарыўся, ледзь стаю... Забіць яго я не магу...

Трэйці Шляхціч

Рука ад шаблі анямела, а ён жывы, здароў і цэлы!

Другі Шляхціч

Гэй, бараніся, міласьць ваша!

Трэйці Шляхціч

Эх, я зраблю з вашэці кашу!

*(б'юцца)*

Чорт

*(паміж іх)*

Паслухайце маёй вы рады, бо ў маіх словах няма зрады, я абаім вам добра зычу... На важну справу вас я клічу.

Другі Шляхціч

Прашу вас не перашкаджаць!

Трэйці Шляхціч

Што вашэць маеш нам сказаць?

Чорт

Тут шаблямі махаць дармá, калі нідзе Сьмерці няма. Раней трэ' Сьмерць ісьці шукаць, а потым шаблямі махаць.

Другі Шляхціч

Вось думка правільная дужа! А дзе-ж яе шукаць, мой дружа?

Далакоп і Сталяр

*(уваходзяць зь людзьмі)*

Усе

*(крычаць)*

Ідзем Сьмерць вызваляць!..
Дзе яна?..
Вядзеце нас!..
Для Сьмерці мы жыцьця свайго не пашкадуем!..

Чорт

За мной, наперад, спадары! За мной, за мной, таварышы! Я павяду ўсіх вас туды, дзе у няволі енчыць Сьмерць!

Усе

Мы пойдзем усе! мы пойдзем усе! Мы пойдзем вызваляць яе!..

*(выходзяць за Чортам)*

ЗАСЛОНА.

# *АБРАЗОК ШОСТЫ*

АСОБЫ:

Альхэмік

Сыльвук

Старая Ведзьма

Агапка

Чорт закаханы

Чорт у кунтушы

Ксёндз

Поп

Далакоп

Сталяр

Першы Шляхціч

Другі Шляхціч

Трэйці Шляхціч

Рыцар

Народ

*Перад домам Альхэміка. Праз вузкія адчыненыя дзьверы відаць цёмныя сходні нагару. Над дзьвярыма бальКончык.*

Сыльвук

*(сядзіць на лавачцы каля дзьвярэй, грае на гітары і пяе)*

Сеў-жа я на лаваньцы і ножанькі падабраў, ты мяне спалюбіла і я цябе спадабаў; ты мяне спалюбіла, ты-ж мяне спадвяла, ты-ж мяне маладога ў каморачку завяла.

*(гаворыць)*

Эээх! Гэтулькі ёсьць у Вільні прыгожых дзяўчат, а ў мяне няма ніводнай!... Зусім інакш у іншых хлапцоў... Кажны ма́е сваю дзеўку, ма́е да каго прытуліцца, абняць, пацалаваць... А ў мяне — нікагусенькі.
А гэта ўсё дзеля таго, што адвагі я ня ма́ю. Ня ведаю, як да дзяўчыны падыйсьці, што ёй казаць.
І чаму гэта хлапцы павінны да дзяўчат падлабуніваццa, а не дзяўчаты за хлопцамі увіхацца?... Вось каб цяпер прыйшла сюды нейкая прыгожанькая дзяўчынанька і сказала проста: Сыльвук! я цябе спалюбіла — і канец!... Бо я, далібог, ня ведаю, як брацца за гэтую справу.

Голас Альхэміка

*(за сцэнай)*

Сыльвук!

Сыльвук

*(устае, кладзе гітару на лаўцы)*

О! ужо дохтар мяне кліча... Няма на-

ват калі крыху палятуцець аб дзяўчатах!

*(ідзе па сходнях нагару)*

Ведзьмы

*(уваходзяць)*

Старая Ведзьма

*(да Агапкі)*

Вось ён тутака заўсёды, як Альхэміка няма, на лавачцы адзін сядзіць ды на гітары ўсьцяж бранчыць...

Ты ціха неяк падыйдзі і пастарайся кручком гэтым кафтан ягоны зачапіць...

*(дае Агапцы кажáнаву костачку)*

Яго зачэпіш — будзе твой, і з задурэўшай галавой ён безь цябе ня зможа жыць. Ён за табой на канец сьвету, калі захочаш, пабяжыць; чаго захочаш, зробіць ўсё... такую сілу мáе гэта кажáнавая костачка!...

*(чутно, што па сходнях нехта ідзе)*

Хаваймося! нехта ідзе!... Каб не апынуцца ў бядзе!..

Альхэмік із Сыльвуком

*(уваходзяць)*

Альхэмік

Сыльвук! Я цяпер іду да бурмістра на банкет. З нагоды свайго выздараўленьня бурмістр на сяньня запрасіў гасьцей. Вярнуся, мабыць, няскора. Нікуды ня йдзі!

пільнуй хаты! сядзі і глядзі, каб ніхто тут не ўвайшоў, ніхто каб бочкі не чапаў.

Сыльвук

Увесь час буду тут сядзець, спадара дохтара чакаць. Вачэй не заплюшчу ні на міг.

Альхэмік

*(пайшоў)*

Сыльвук

Добра было-б гэтак сядзець і чакаць, калі-б разам зь нейкай дзеўкай!...
Сядзіш гэтак зь ёю абняўшыся, а яна гэткая цёплая, мяккая!..
Эээх!..
А на сьвеце так добра, хораша, прыгожа, цёпла... Цяпер вясна, бэзы цьвітуць, птушачкі пяюць...

*(чутно пяяньне салаўя)*

Во! саловушка пяе! птушачка і тая мае патрэбу каханьня... Пяе бедненькая! Кліча да сябе сваю мілую... А каго паклічу я? Нікога ў мяне няма! Бедны Сыльвук! А дзяўчат на сьвеце шмат! А я адзін!

*(бранчыць на гітары і пяе)*

Сеў-жа я на лаваньцы і ножанькі падабраў, ты мяне спалюбіла і я цябе спадабаў...
Эээх!

*(перастаўшы пяяць, гаворыць)*

Каб-жа гэтак прыйшла нейкая і сказала: люблю цябе!.. А я ёй таксама кажу:

люблю цябе!.. Пасьля цалую яе, а яна мяне цалуець... Ууух! кіну ўсё і паляту шукаць нейкай!.. Але каго? Дзе шукаць? Хто да мяне пойдзе! Сьмяяцца будзе!..
Эээх!

Ведзьмы

*(уваходзяць пад канец гэтага маналёгу незаўважна для Сыльвука)*

Старая Ведзьма

*(мімічна кажа Агапцы, каб яна зачапіла яго костачкай, і хаваецца за кулісы)*

Агапка

*(падыходзіць да Сыльвука)*

Выбачайце... замарылась... Ці можна сесьці на хвіліну і супачыць тут каля вас?

*(сядáе)*

Сыльвук

*(усьцешыўся)*

Ах, калі ласка, ня хвіліну, прашу сядзець і шмат даўжэй!.. З гэткай прыгожанькай дзяўчынай час праляціць мне вясялей...
Я пры дзяўчатах баязьлівы, але пры вас я так шчасьлівы...

Агапка

Дык можа мне пайсьці дахаты, калі ня любіце дзяўчат?

Сыльвук

Наадварот, я вельмі рад...

Агапка

*(зачапляе за ягоны рукаў кажанавай костачкай)*

Сыльвук

*(заўважыўшы гэта)*

Што гэта? што ў руцэ у вас?

Агапка

Прыгожы ма́еце кафтан...

Сыльвук

Мне падарыў яго мой пан... Ужо працёрся на лакцях... А у вас прыгожы гэты...

*(хоча дакрануцца да ейнай вопраткі, але ня важыцца)*

Ох! не магу! мне проста страх!..

Агапка

Чаго?

Сыльвук

Ох, не магу!.. Гарачыня! Мне горача пры вас сядзець!

*(заплюшчвае вочы)*

Агапка

А мо' перашкаджаю я?.. Нават ня хочаце глядзець!.. Дык я магу пайсьці дамоў. Пайду з вачэй вашых далоў...

Сыльвук

Ох, ня ідзеце! пасядзеце!.. Мой спадар

на баль пайшоў... Мабыць, што вернецца ня хутка, дык можам пасядзець мы тутка ажно да раньня, да сьвітаньня.

Агапка

Ох, як я змарылась сяньня, аж галава мне закружылась...

*(апірае галаву на плячо Сыльвука)*

Сыльвук

*(раптам абыймае яе і цалуе)*

Няхай-жа кружыцца бяз конца! Ох, як добра, як салодка! Гэтак хай да ўсходу сонца не адкружаецца галоўка!..
Ох, як добра!

Агапка

І мне добра пры вашэці.

Сыльвук

Ах, як добра дзеўку меці!..
Прашу вас... яшчэ раз...

*(цалуюцца)*

Агапка

Як вас клічуць?

Сыльвук

Сыльвук. А вас?

Агапка

Агапка.

Сыльвук

Агапка! мая Агапка!..

*(пяе)*

Мая Агапка! мая галубка!
мая ты радасьць! чароўны сон!
Калі-б я князем быў, маю любку
я пасадзіў-бы на княжы трон.

Калі-б я птушкай быў дужакрылай,
цябе панёс-бы у іншы край,
і паляцеў-бы са сваёй мілай,
вясна дзе вечна, дзе вечны май.

*Дуэт:*

Сыльвук

Ня ма́ю нават я собскай хаткі,
зь бядой спазнаўся ўжо змалку дзён,
дык для міленькай маёй Агапкі
у сваім сэрцы збудую трон.

Агапка

*(пяе разам із Сыльвуком)*

Ня ма́еш нават ты собскай хаткі,
зь бядой спазнаўся ўжо з малку дзён,
дык для міленькай сваёй Агапкі
у сваім сэрцы збудуеш трон.

Агапка

*(гаворыць)*

Ты казаў, што твой спадар пайшоў да бурмістра на баль?

Сыльвук

Але.

Агапка

Дык мы баль таксама зладзім!

Сыльвук

Эх! Нічога не наладзім, не парадзіш, хоць ты трэсьні! Для банкету шмат патрэба, а ў мяне няма нічога, толькі ёсьць кавалак хлеба, ды халодная яешня у пагасшай стаіць печы. Дык пры гэтакай галечы банкет ладзіць не да рэчы.

Агапка

А я нешта з сабой ма́ю...

*(паказвае нейкі клумачак)*

Сыльвук

Што гэта?

Агапка

Цынамон, мускат, гвазьдзікі... а вось мёду ёсьць гаршчок.

Сыльвук

Мне трудна скарыстаць з пазыкі, бо скуль аддаць табе-б я мог?

Агапка

Нічога аддаваць ня будзеш, за тое сьпірту раздабудзеш, — і зварым ў печачцы тваей мы гэткі крупнік, што ой-ей!

Сыльвук

О! крупнік вельмі я люблю, але з чаго-ж яго зрабіць?

Агапка

Ня ма́еш сьпірту ані крышку?

Сыльвук

Яно дык так як і няма... Сказаўшы

праўду, дык ён ёсьць... Вось акурат быццам на злосьць: сьпірт ёсьць, але чапаць нельга.

Агапка

Дык-жа ня шмат, а адну кварту!

Сыльвук

Стаіць у Дохтара там бочка, але чапаць яе ня варта.

Агапка

Была-б вясёленькая ночка, калі-б мы тутка баль зрабілі... Кажаш, што ёсьць тут сьпірту бочка, дык-жа крыху можна ўзяць! Ў бочку мы-б вады далілі, каб ніхто ня мог спазнаць.

Сыльвук

Нельга, нельга адчыняць! ані каплі нельга браць! Дошкамі прыкрыта бочка, на іх камені ляжаць...

Агапка

Можна асьцярожна зьняць, а пасьля ізноў накрыць...

Сыльвук

Нельга! нельга! там сядзіць...

Агапка

Хто?

Сыльвук

Нельга гэтага казаць.

Агапка

Вось які-жа ты паганец!.. Нам ня трэ-

ба-ж цэлы гарнец, хопіць толькі адна кварта...

Сыльвук

Не, Агапценька, ня варта, — з гэтай бочкай няма жартаў...

Агапка

Калі гэткі ты паскуда, сядзець больш з табой ня буду!..

*(хоча ісьці)*

Сыльвук

Паслухай-жа мяне, Агапка! са сьпіртам нам ня пойдзе гладка, бо ў гэтай бочцы нехта мокне...
Лепш у карчму я пабягу і пляшку сьпірту там куплю!

*(хапаецца за кішэнь)*

Ах, Божа мой! як на бяду нямáю грошай... што рабіць?

Агапка

Пытаюся: хто там сядзіць?

Сыльвук

Ах, Божа мой! нельга казаць!.. Яна!.. сама!.. Кастуся!.. Сьмерць!..

Агапка

Усё, Сыльвук, зрабіці можна... Мы гэта зробім асьцярожна.

Сыльвук

Нельга, нельга, бо ўцячэ!

Агапка

Ты толькі слухайся мяне...

Сыльвук

О!.. шэльма можа уцячы!

Агапка

Чакай, мяне паслухай ты!.. Адсунем асьцярожна дошку і чарпанём стуль сьпірту трошкі... Ня шмат! ня больш за гарца чвэрць... Не уцячэ із бочкі Сьмерць!.. Зноў накрыем, зноў прыцісьнем,—ніхто ведаць-знаць ня будзе!.. бо нікому ані пісьнем, што мы ў бочку заглядалі...
Ну, дык добра? ты гатовы?.. Загуляем як на балі!..

Сыльвук
*(нерашуча)*

Я ня ва́жусь, я баюся, — можа уцячы Кастуся... Дохтар скажа што тады?!

Агапка

Эх, дурны! дурны! дурны!

Сыльвук

Ён прагоніць мяне вон!

Агапка

Ні аб чым ня будзе ён ані ведаць, ані чуць!

Сыльвук
*(рашыўшыся)*

Ну дык пойдзем нагару!

Агапка

Крупнік я табе звару і ўсю ноч з табой прабуду!

Сыльвук

*(ізноў нерашуча)*

Ах, мне страшна... я баюсь!..

Агапка

Эх, мой міленькі Сыльвусь! З табой ночку ўсю прабуду... Любіць буду, любіць буду!..

*(ідуць нагару)*

Старая Ведзьма з Чортам

*(уваходзяць)*

Старая Ведзьма

Усё добра йдзе!.. Я думаю, што Люцыпар, наш бацька найміленшы, будзе з нас здаволены.

Чорт

Ах, лоўкая дзяўчына твая Агапка!.. Ах, кабы мне гэткая жонка!..
Няраз вяртаюся пасьля працы да пекла і, хаця змарыўшыся як конь, не магу ні на часінаечку заснуць... Пераварачваюся у смале з боку на бок і ўсё думаю толькі аб ёй!.. Яна ў душу маю так глыбака ўшчамілася, што не магу ўжо жыць безь яе!..

Старая Ведзьма

Пацярпі, кумок!.. Я цябе высватаю. Я з Агапкай часта гавару аб табе, хвалю

цябе.. Яна яшчэ вельмі маладая, не разумее, дзе яе шчасьце... Чакай цярпліва, усё добра наладзіцца.

Чорт

*(у роспачы)*

Яна мяне ня любіць!... Яна мне раз у вочы сказала, што я дурны, няпрыгожы, касматы... А я гэтак мучаюся!

Старая Ведзьма

*(спагадліва)*

Бедны ты, мой галубок!.. Пацярпі яшчэ, каток!.. Я з усіх сіл стараюсь для цябе... Яшчэ прыйдзе час, што Агапка сама кінецца табе на шыю... Усё будзе добра, усё наладзіцца.

Чорт

Безь яе нямашака для мяне жыцьця!.. І аванс мяне ужо ня цікавіць.. Дзеля чаго, для каго старацца? для каго працаваць?.. Жывеш адзін, як той кол пры дарозе. Эх!..

Старая Ведзьма

А я табе, мой голубе, пара́ю вось што: ты старайся ня выказваць, што гэтак страшэнна яе кахаеш. Бо дзеўка, калі бачыць, што нехта ходзіць каля яе, страціўшы галаву ад вялікага каханьня, робіцца фанабэрыстай і не дацэнівае гэтага пачуцьця... Калі за дзеўкай гонішся, яна ўцякае ад цябе; калі ты будзеш уцякаць

ад яе, яна за табой пагоніцца... Гэтак заўсёды бывае... Я старая, я гэта ўсё добра ведаю.

*(Праз адчыненыя дзьверы балькону вылятае Сьмерць. Яна ляціць вольная, бязьлітасная, ненасытная, каб узяцца ізноў за спыненую працу — за сваё страшное жніво...)*

Глядзі! глядзі! куманёк! Яна — наша сястра — ляціць! ляціць!.. Вольная ужо!

Чорт

Ляціць у сьвет шырокі — вольная!.. Мы перамаглі!..

*(Чуваць гоман)*

Старая Ведзьма

Людзі йдуць!.. Хаваймося!..

*(уцякаюць)*

Чорт у кунтушы

*(вядзе за собой натоўп)*

Ён тут жыве!..

Рыцар

Наперад! Сьмела!

Першы Шляхціч

Гэй, Дохтар! Выхадзі сюды!

Другі Шляхціч

Дзе Сьмерць? Пусьці Сьмерць!

Трэйці Шляхціч

Аддай нам Сьмерць!

Сталяр

Дзе яна? Давай яе сюды!

Далакоп

Хай вернецца шчасьлівае жыцьцё!

Сыльвук

*(бяжыць па сходнях уніз)*

Рыцар

Стой! Ты хто? Ты Дохтар? Ты Альхэмік?

Сыльвук

*(спалоханы)*

Я? я — Сыльвук. Я ня Дохтар...

*(да сябе)*

Ах, што я нарабіў! што цяпер будзе?

Рыцар

Дзе Дохтар? Дохтара давай!

Ксёндз

Дзе Сьмерць? Вядзі нас да яе!

Сыльвук

Дохтара няма. Пайшоў на баль.

Поп

Дзе Сьмерць?

Сыльвук

Няма... Уцякла... Мая віна!.. Цяпер уцякла..,

Рыцар

Няпраўда! Брэша ён. Вяжэце яго! Ён зараз усё раскажа, ён нам Сьмерць пакажа, як пяткі добра яму падсмалім.

*(вяжуць Сыльвука)*

Сыльвук

Зьлітуйцеся, дабрадзеі! Я праўду кажу. Далібог! толькі што з бочкі уцякла...

Трэйці Шляхціч

Зь якой бочкі? Што ён брэша!

Рыцар

Яна тут! Дзе яна?

Агапка

*(ціханька ідзе па сходнях і незаўважаная хоча уцячы)*

Рыцар

*(пабачыўшы яе)*

Стой! Хто гэта дзеўка? Трымайце яе!

Агапка

*(уцякае)*

*(некалькі людзей кінулася за ёю, але ізь зямлі бухнула полымя і на хвіліну загарадзіла дарогу)*

Трэйці Шляхціч

Што гэта!? Чары!.. Тут чараўнікі жывуць!!..

Ксёндз

*(паказваючы на Сыльвука)*

На касьцёр яго! Гэта — чараўнік!

Сыльвук

Вяльможныя! Я не чараўнік. І спадар Дохтар не чараўнік... Ён вельмі наўчоны, але не чараўнік... Ён выдумаў элік-

сір жыцьця, але нічога з гэтага ня выйшла... А пасьля ў нас сядзела Сьмерць у бочцы, марынавалася, але ўцякла... Я хацеў сьпірту кварту чарпануць, а яна гоп! і выскачыла!..

Ксёндз

Спаліць яго! Гэта чараўнік! Вядзьмар! Спаліць на кастры!

Усе

Спаліць яго!.. На касьцёр!.. Гэта чараўнік!..

Сыльвук

Вяльможныя! Я бедны слуга... Я ча́раў ня ведаю... Калі трэба паліць, дык лепш ужо Дохтара палеце! Гэта ён Сьмерць у бочку зачыніў... А зашто-ж мяне? Я бедны Сыльвук... Што мне Дохтар сказаў, я тое рабіў... Ведама, ён гаспадар, я — слуга... Дохтар можа і чараўнік, хто яго ведае!.. Ад вялікай вучонасьці ўсяляк бывае... А вось, гляньце!.. Вось там... вось і ён ідзе! Вы лепш, яснавяльможныя, зь ім пагаманеце, а мяне пусьцеце!..

Першы Шляхціч

Дзе ён? дзе? Хапайце, вашэці, яго!

Усе

*(апрача Далакопа і Сталяра выбягаюць з крыкам)*

У полымя чараўніка!.. На касьцёр!.. Спаліць яго!..

Далакоп

*(да Сталяра, паказваючы на Сыльвука)*

А можа й узапраўды ён не вінава́ты?

Сталяр

Разьвяжам яго! Відаць, што ён не вядзьмар.

Сыльвук

Дайце мне крыж!.. Я пацалую крыж сьвяты! Я да споведзі хаджу... Я не чараўнік!.. Шчырую праўду вам кажу!..

Сталяр з Далакопам

*(разьвязваюць Сыльвука)*

Далакоп

Ну, пакажы цяпер-жа нам, дзе яна тут у вас сядзела?

Сыльвук

Хадзем сюды! за мной прашу!.. Сюды вось пойдзем нагару... Там бочка гэтая стаіць.

Далакоп

*(да Сталяра)*

Ну, што? як думаеш, браток? лягчэй цяпер нам будзе жыць?

Сталяр

Няма ўжо нават што казаць! Цяпер шмат будзе мерцьвякоў! Пасыплюцца заказы зноў, — труна зноў пойдзе за труной.

*(да Сыльвука)*

Вядзі нас, хлопча, нагару! Паглядзім гэтую дзіру.

*(пайшлі па сходнях нагару)*

Усе

*(вядуць Альхэміка са зьвязанымі рукамі і крычаць)*

Вядзьмар!.. Дзе Сьмерць?.. Аддай нам Сьмерць!.. На касьцёр яго!.. У вагонь!... Хай у полымі гарыць!... Чараўнік!...

Альхэмік

Чакайце!.. Дайце сказаць!.. Людзі! чакайце, паслухайце мяне! я шчасьце вам хачу даць, я Сьмерць трымаю у няволі, яна ня вырвецца ніколі!..

Чартоўская сяброўка, Люцыпара сваячка, наш вораг найвялікшы, праклята душагубка — Сьмерць — у маіх руках!.. Яе ня выпушчу на сьвет праз тысячу гадоў і болей!.. Ужо ня вырвецца ніколі з маіх рук!..

Я — ваш друг, я — ваш брат, даю вам вечнае жыцьцё... я несьмяротнасьць вам даю!.. Ці разумееце вы гэта? Ці можаце вы ўцяміць гэта?!.

Маёй перш-наперш было мэтай, каб эліксір знайсьці жыцьця... Гадоў шмат гэтак мучыўся... Навукі ўсе як сьлед пазнаў... Сваіх я сіл не шкадаваў, каб ашчасьлівіць род людзкі...

Пашанцавала мне ў жыцьці, бо Сьмерць лёс добры ў рукі даў, дык крэпка я яе схаваў, каб даць вам вечнае жыцьцё, каб несьмяротнымі зрабіць...

За гэта славы ня шукаў і непатрэбны грошы мне, даволі сьведамасьці гэтай, што думкі зьдзейсьніліся мае!..
Чаго вам трэба ад мяне? Ці ашалелі вы тут ўсе? Чаму праклёны на маю, маю сівую галаву так кідаеце лёгкадумна?..
Эх, людзі неразумныя! Вы самі ня ведаеце, што робіце!

Першы Шляхціч

Даволі гэтых пустых слоў! Брахаць ён добры відаць майстра!

Далакоп

Добрае «шчасьце»! — Сьмерць схаваў!

Ксёндз

Ты з чартамі хэўру маеш!

Другі Шляхціч

Чараўнік!

Трэйці Шляхціч

Вядзьмар! нас не ашукаеш!

Ксёндз

Спаліць яго!

Поп

На касьцёр!

Рыцар

У вагонь!

Сталяр

Бязь Сьмерці цесна людзям жыць!

Далакоп

Сьмерць павінна быць!

Усе

На касьцёр! у вагонь! хай гарыць!

Альхэмік

Не баюся я агню! Я не згару! Сьмерці няма! Ня знойдзеце яе! Я буду жыць!

Сыльвук

*(з бальконy)*

Спадар Дохтар! Сьмерць ўцякла... Ужо ў бочцы няма! Паляцела кудысьці.

Альхэмік

Хто выпусьціў яе?

Сыльвук

Ня гневайцеся, спадар Дохтар! Мая гэта віна. Ня гневайцеся на мяне!.. Я маліцца за вас буду і дам на імшу за вашу душу...

Круці, Дохтар, ня круці — трэба памярці.

Альхэмік

Я ашчасьлівіць хацеў вас...

Усе

*(з крыкам вядуць Альхэміка на касьцёр)*

Сыльвук

*(адзін, на бальконе)*

Добры быў пан... шкада яго!

Але што-ж я цяпер буду рабіць безь яго?..

Э! Бог — бацька! Неяк свой век пражыву...

ЗАСЛОНА.

*Вільня, Ліпень-жнівень 1943 г.*